# ВЕСЬНІК

## ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ, САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ І САВЕТУ ПРАЦЫ І АБАРОНЫ САЮЗУ САВЕЦКІХ СОЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

31 студзеня 1924 г. № 1. Арт. 1—15.



ЗЬМЕСТ.



# Пастановы і загады Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

**1. Аб звальненьні цэнтральнай камісіі дапамогі панёсшым шкоду працоўнаму насельніцтву Японіі ад выплаты дзяржаўных і мясцовых падаткаў і збораў па зьдзелкам, утвараемым з дзяржаўнымі установамі і дзяржаўнымі прадпрыёмствамі.**

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

Зволіць ўсе, утвараемыя цэнтральнай камісіяй дапамогі панёсшему шкоду, працоўнаму насельніцтву Японіі пры Цэнтральным Выканаўчым Камітэце Саюзу ССР, дзеля ажыцьцяўленьня ускладзеных на яе абавязкаў, зьдзелкі з дзяржаўнымі установамі і дзяржаўнымі прадпрыёмствамі, ад выплаты дзяржаўнага гэрбавага збору, платы за зьдзелкі у натаруса і надбавак за яе, спаганяемых дзеля прыбытку мясцовых саветаў, а роўна ад падатку за зьдзелкі, якія робяцца ці рэгіструюцца на біржы, у тэй частцы памянёных падаткаў і збораў, выплата якой кладзецца на камісію дапамогі.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзэ.**

4 студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 4 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 5 студзеня 1924 г.

## 2. Аб парадку адпраўкі дармавых хворых на курорты.

*Цыркулярна.*

Цэнтральным Выканаўчым Камітэтам:

Расійскае Социалістычнае Федэратыўнае Савецкае Рэспублікі, Украінскае Соцыалістычнае Савецкае Рэспублікі, Беларускае Соцыалістычнае Савецкае Рэспублікі, Закаўказкае Соцыалістычнае Федэратыўнае Савецкае Рэспублікі.

Ня гледзячы на зробленыя некалькі разоў офіцыяльныя тлумачэньні, агалошаныя ў друку, аб немагчымасьці адпраўкі дармавых хворых на курорты, якія знаходзяцца за ведамам галоўнага управаўленьня курортамі РСФСР, без нарадаў апошняга, выпадкі гэткіх адправак хворых у працягу мінулых летняга і восеньняга сэзонаў мелі месца. Каб упарадкаваць справу адпраўкі дармавых хворых на курорты і звальненьня органаў ўлады, у веданьні якіх гэтыя курорты знаходзяцца, ад цяжкіх выдаткаў на утрыманьне адпраўляемых звыш нарадаў дармавых хворых, а гэтак сама і дзеля выгады саміх хворых—Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ССР прапануе цыркулярна прапанаваць пад'уладным вам губэрскім і краінным выканаўчым камітэтам ніжэй наступнае:

1. Катэгарычна забараніць адпраўку дармавых хворых на курорты, належачыя да ведама галоўнага управаўленьня курортамі РСФСР без яго нарадаў, а на іншыя курорты мясцовае вартасьці без нарадаў належнага органу народнага камісарыяту аховы здароўя саюзнае рэспублікі.

2. Пры адпраўцы хворых на курорты на ўзятыя у арэнду якою-небудзь дзяржаўнаю установаю ложкі абавязкова забясьпечыць хворых сродкамі на усялякія неабходныя выдаткі, у тым ліку і сродкамі на пераезд у абодва канцы.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

11 студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

---

## 3. Аб зьніжэньні акцызу на газу.

Дзеля з'iначэньня п. „а“, арт. 13, падзелу 1 пастановы Ўсерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 19 красавіка 1923 г. аб устанаўленьні велічыні акцызных ставак на рэчы, абкладваемыя акцызам (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 33, арт. 362) і п. „а“, арт 14 дадатку да пастановы Савету Працы і Абароны ад 20 жніўня 1923 г. аб вылічэньні цьвёрдых ставак акцызу у чырвоным вылічэньні (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 9, арт. 285) Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Налажыць акцыз на газу у чырвоным вылічэньні у велічыні 60 кап. з пуду або 3 руб. 65 кап. за сто кілёграмаў.

2. Гэтую пастанову зьдзейсьніць па тэлеграфу.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні ЦВК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

11 студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 12 „Известий“ ЦВК Союзу ССР ад 15 студзеня 1924 г.

---

## 4. Аб ваенна-конскай і ваенна-павозачнай павіннасьцях.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Ваенна-конская павіннасьць устанаўліваецца на ўсім абшары Саюзу Савецкіх Соцыалістычных Рэспублік дзеля пляновага укомплектованьня пры мабілізацыі, а так сама у час вайны ўзброеных сілаў Саюзу коньмі, а у іншых мясцовасьцях і іншымі рабочымі жывёламі, як: вярблюдамі, буйволамі і муламі (катэрамі).

Увага. Вярблюды могуць дастаўляцца у армію на абшары Паўночна-каўказскай і Прыволскае ваенных акруг, Туркестанскага фронту, асобнай каўкаскае арміі і Кіргіскага краю; буйволы і валы—на абшары Паўночна-Каўказскай ваеннай акругі, Туркестанскага фронту і асобнай Каўказскай арміі, а валы, зьверх гэтага,—Украінскай ваеннай акругі і нарэшце, мулы (катэры) на абшары Паўночна—каўкаскае ваеннай акругі і асобнае каўкаскае арміі.

2. Ваенна-павозачная павіннасьць гэткім жа чынам устанаўляецца ў мэтах укомплектаваньня узброеных сілаў Саюзу ССР ў тых жа выпадках павозкамі і упражу.

3. Ваенна-конская і ваенна-павозачная павіннасьці выяўляюцца у тым, што ў выпадку абвешчаньня у устаноўленым законам парадку дастаўкі коняў і іншае рабочае жывёлы ці павозак з упражу водлуг належнасьці, ўладары гэтае жывёлы і прадметаў павінны:

а) прывясьці іх усіх або толькі некалькіх, якіх да гэтага назначуць, на першастковае агляданьне на адчыненых дзеля гэтага згонных пунктах ваенна-конскіх вучасткаў;

б) прывясьці на канчатковае агляданьне на фарміруемых дзеля гэтага у паветах здатачных пунктах тую ж жывёлу ці прадметы, якія будуць да гэтага назначаны з ліку належачых першастковаму агляданьню;

в) жывёлу і прадметы, прынятыя пасьля канчатковага агляданьня на здатачным пункце у армію—даставіць дзяржаве з аплатай іх апошняй водлуг цаны, устанаўляемай асобнымі раскладамі, зацьверджаемымі Рэвалюцыйным Ваенным Саветам Саюзу ССР па ўлагоджаньню яго з народнымі камісарыятамі грашовых справаў і рабоча-сялянскае інспэкцыі Саюзу ССР, а так сама народным камісарыятам земляробства адпаведнай рэспублікі.

4. Дастаўкі могуць быць толькі: а) па мабілізацыі і б) дадатковыя.

5. Дастаўка па мабілізацыі мае мэтай давядзеньне да штатаў ваеннага часу мабілізуючыхся і узноў фарміруемых войскаў і абвяшчаецца без усякіх асобных аб ёй пастановаў на падставе пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР аб агульнай ці частковай мабілізацыі узброеных сілаў Саюзу ССР.

6. Дадатковыя дастаўкі робяцца у час вайны для папаўненьня некомплекту і страты жывёлы, павозак і упражы у войсках і для укомплектаваньня новых фармаваньняў, абвешчаюцца на падставе асобных кожны раз пастановаў аб тым Савету Народных Камісараў Саюзу ССР.

Увага. Дадатковыя дастаўкі, апрача абвешчаных на падставе адпаведнае пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР, могуць назначацца толькі старэйшымі вайсковымі начальнікамі, у тых жа выпадках, калі ім дадзена права рабіць прызывы.

7. Лік коняў, іншай рабочае жывёлы, павозак і упражы, належачых дастаўцы па мабілізацыі у кожным павеце, а так сама на кожным здатачным пункце, вызначаецца, памяркоўна патрэбаў войскаў, дзеючым мабілізацыёным раскладам, зацьверджаным Рэвалюцыйным Ваенным Саветам Саюзу ССР.

Агульны ж нарад падлягаючай на абшары Саюзу ССР дастаўцы па мабілізацыі жывёлы, павозак і упражы зацьверджаецца Саветам Народных Камісараў Саюзу ССР.

8. Агульны лік жывёлы, павозак і упражы, падлягаючай дадатковай дастаўцы, а так сама раён, у якім яна павінна быць зроблена вызначаецца тэй жа пастановаю Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ці загадам вайсковага начальніка, на падставе якога абвешчана дастаўка; далейшая развёрстка паказанага ліку да здатачных пунктаў робіцца установамі, якія загадваюць дастаўкай.

9. Галоўнае загадваньне дастаўкамі належыць Рэвалюцыйнаму Ваеннаму Савету Саюзу ССР (па мабілізацыйнаму адзелу штабу рабоча-сялянскай чырвонай арміі), а мясцовае—штабам ваенных акругаў, губэрскім, павятовым і адпаведаючым ім ваенным камісарыятам.

Да працы па падгатоўцы і правядзеньню даставак прыцягваюцца так сама установы народных камісарыятаў унутраных справаў і земляробства адпаведных рэспублік, а так сама установы і асобы іншых ведамстваў,—у парадку, прадгледжаным „настаўленьнем дзеля дастаўкі па мабілізацыі коняў, іншай рабочай жывёлы, павозак і упражы“ (арт. 21).

10. Лік і знаходжаньне здатачных пунктаў, адчыняемых у кожным павеце, вызначаецца дзеючым мабілізацыйным раскладам. Неабходныя дзеля іх месцы і памешканьні прызначаюцца загадзьдзя, а з абвесткаю кожнай дастаўкі адводзяцца у парадку адводу пры мобілізацыі памешканьня дзеля войскаў і зборных пунктаў запасу.

11. Канчатковае агляданьне і прыём жывёлы, павозак і упражы у ліку вызначаным у парадку арт.арт. 7 і 8, робіцца пры дастаўцы на здатачных пунктах прыёмнымі камісіямі. Кожная камісія складаецца з двух прадстаўнікоў ваеннага ведамству—аднаго ад мясцовага савету, аднаго ад адпаведнага зямельнага органу—і вэтэрынарнага доктара ці вэтэрынарнага лекарскага памоцніка ці, нарэшце, калі няма вэтэрынарных працаўнікоў—сьвядомай асобы з мясцовых жыхароў.

Агляданьню на здатачных пунктах падлягаюць толькі жывёла, павозкі і упраж, якія да гэтага назначаны

12. Прыёму ў армію могуць падлягаць ўсе годныя дзеля службы у войсках коні і іншая рабочая жывёла, павозкі і упраж належачыя як асобным грамадзянам, гэтак і установам і прадпрыёмствам дзяржаўным, коопэрацыйным, грамадзянскім і прыватным.

Дзеля вынятку з агульнага парадку ад дастаўкі па мабілізацыі жывёлы, павозак і упражы звальняюцца зусім ці часткаю установы і асобы, пералічаныя у асобай пастанове аб тым Савету Народных Камісараў Саюзу ССР, а так сама у загадах Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету Саюзу ССР выдаваемых на падставе паказанай пастановы водлуг улагоджаньня з адпаведнымі ведамствамі.

Роўным чынам, мясцовасьці, асабліва бедныя рабочай жывёлай ці павозкамі з упражу, могуць зусім звальняцца ад дастаўкі па мабілізацыі тэй ці іншай жывёлы і рэчаў, але ня інакш як водлуг падачаў савету народных камісараў аўтаномнай рэспублікі, губэрскага ці аднавядаючага яму выканаўчага камітэту і камандуючага войскамі акругі, зацьверджаемым Рэвалюцыйным Ваенным Саветам Саюзу ССР водлуг улагоджаньня яго з народнымі камісарыятамі земляробства і ўнутраных справаў адпаведнае рэспублікі.

Парадак звальненьня ад дадаткавых даставак прадугадываецца тымі ж пастановамі Савету Народных Камісараў Саюзу ССР, на падставе якіх абвяшчаюцца самыя дастаўкі.

13. Дзеля першастковага агляданьня коняў, іншай рабочай жывёлы, павозак і упражы, а так сама дзеля выбару з іх і назначэньня належнага ліку на канчатковае агляданьне прыёмных камісіяў на здатачных пунктах, кожны павет падзяляецца на ваенна-конскія вучасткі, якія прыпадаюць як раз на якую-небудзь воласьць, або складаюць часткі іх, а ў кожным ваенна-конскім вучастку адчыняецца згонны пункт.

Ваенна-конскія вучасткі утвараюцца павятовымі і адпавядаючымі ім ваеннымі камісарыятамі такім чынам, каб ўся праца па першастковаму агляданьню магла быць выканана ў працягу аднаго дня ад раніцы да змроку. Кожны ваенна-конскі вучастак прыпісываецца да вызначанага здатачнага пункту.

14. Лік коняў, іншай рабочай жывёлы, павозак і упражы, падлягаючых падачы ад кожнага ваенна-конскага вучастку на канчатковае агляданьне прыёмных камісіяў на здатачных пунктах, загадзьдзя вызначаецца павятовым ці адпавядаючым яму ваенным камісарыятам на падставе вызначанай у парадку арт.арт.

7 і 8 колькасьці іх, падлягаючай дастаўцы на кожным здатачным пункце, з такім разьлікам, каб утварыць на здатачных пунктах якую-небудзь лішку на выпадак бракаваньня жывёлы ці рэчаў прыёмнымі камісіямі ці недабору у некаторых вучастках. Забракованая на здатачных пунктах жывёла і рэчы ці застаўшыяся у лішцы, варочаюцца ўладарам водлуг загаду камісіі.

**15.** Прывозцы на згонны пункт дзеля першастковага агляданьня, а так сама назначэньню на канчатковае агляданьне прыёмных камісіяў на здатачных пунктах за выключэньнем зусім (не часткаю, звольненых ад дастаўкі могуць падлягаць ці ўся жывёла, якая ёсьць, альбо рэчы ваенна-конскага вучастку, дастаўка якіх абвешчана, ці толькі некаторыя з іх, вызначаныя ў абвестцы аб дастаўцы радавымі приметамі, альбо асабова паказаныя.

Загады аб тым даюцца установамі, якія загадваюць дастаўкай, гэткім чынам, каб, з аднага боку, забясьпечыць пасьпех дастаўкі, а з другога—зрабіць як мага меньш нявыгодаў насельніцтву.

**16.** На час усякай дастаўкі, да ле канца, ўладарам коняў тых раёнаў, дзе дастаўкі абвешчаны, забараняюцца усякага гатунку зьдзелкі на коняў, якія нясуць за сабой перамену іх уладароў. У прыватнасьці, у гэты час спыняецца усякае набыцьцё коняў ваенным ведамствам іншым парадкам, апрача дастаўкі.

**17.** Першастковае агляданьне, выбар і назначэньне на канчатковае агляданьне прыёмнай камісіі на здатачным пункце коняў, іншай рабочай жывёлы, павозак і упражы у вызначаным павятовым ці адпавядаючым яму ваенным камісарыятам ліку (арт. 14), робіцца на згонным пункце загадчыкам ваенна-конскага вучастку, назначаемага валасным выканаўчым камітэтам і зацьверджаемага павятовым ці адпавядаючым яму ваенным камісарыятам.

**18.** Загадчык ваенна-конскага вучастку назначаецца з ліку сябраў ці супрацоўнікоў валасных выканаўчых камітэтаў ці сельскіх саветаў, пераважна дзелаводаў валасных выканаўчых камітэтаў, ці, нарэшце, з мясцовых грамадзян, жадаючых ўзяць на сябе гэтыя абавязкі безнагродна. Загадчык вучасткам павінен быць пісьменным, умець вызначаць па надворных приметах годнасьць, узрост і сорт каня і іншай рабочай жывёлы і прыгоднасьць павозак з упражай і заўсёды жыць у воласьці.

**19.** Пасада загадчыка ваенна-конскім вучасткам — сталая і ня можа заставацца вакантнай.

**20.** Загадчык ваенна-конскага вучастку, па зацьверджаньні яго павятовым ці адпавядаючым яму ваенным камісарыятам, звальняецца, на час яго знаходжаньня на пасадзе, ад прызыву па мабілізацыі; а належачыя яму коні ці іншага гатунку рабочая жывёла і павозкі з упражу, у ліку ня больш 2 жывёлаў ці 2 павозак з упражу, па яго выбару, ад дастаўкі.

Увага 1. Калі ў воласьці больш аднаго ваенна-конскага вучастку, дык льготы загадчыкамі вучасткамі могуць давацца толькі пры ўмове, каб агульны лік асобаў, карыстаючыхся імі у губэрні, не перавышаў палутарнага ліку воласьцяў. Зьверх гэтай нормы льготы даюцца мабілізацыйным аддзелам штабу рабоча-сялянскай чырвонай арміі.

Увага 2. Ня могуць звальняцца ад прызыву па мабілізацыі ў парадку гэтага артыкулу асобы, якія знаходзяцца на учоце каманднага і адміністратыўнага складу.

**21.** Дзеля разьвіцьця гэтага дэкрэту Саветам Працы і Абароны водлуг падачы Рэвалюцыйнага Ваеннага Савету Саюзу ССР зацьверджаецца „Пастаўленьне дзеля дастаўкі па мабілізацыі коняў, іншай рабочай жывёлы, павозак і упражы“.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

11 студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 13 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 16 студзеня 1923 г.

---

**5** **Аб кроках дзеля палягчэньня сялянству куплі сельска-гаспадарчых прыладаў.**

Каб палегчыць сялянству куплю сельска-гаспадарчых прыладаў (праз зьніжэньне цэнаў на гэтыя прылады і праз дачу на даўгі тэрмін крэдыту), Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляюць:**

1. Справа прадажы сельска-гаспадарчых прыладаў павінна быць гэтак пакірована, каб яны былі падблiжаны да сялянства і яно магло даступіцца да іх.

2. Дзяржаўныя установы і прадпрыёмствы і кооперацыйныя арганізацыі абавязаны прадаваць сельска-гаспадарчыя прылады сялянству па цане, какая была яшчэ да вайны; пры прадажы рубель, які быў да вайны, лічыцца роўным чырвонаму рублю.

3. Камісіі па ўнутранаму гандлю з удзелам вышэйшага савету народнае гаспадаркі і народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР, а гэтак-жа народных камісарыятаў земляробства саюзных рэспублік даручаецца: першае, устанавіць агульныя цэны дзяржаўных заводаў (трэстаў) на сельска-гаспадарчыя прылады гэтак, каб патаннеў выраб гэтых прыладаў; другое, устанавіць велічыню надбаўкі, вышэй якое прадпрыёмствы і арганізацыі, якія гандлююць сельска-гаспадарчымі прыладамі, ня маюць права накідваць на агульныя цэны.

4. З дзяржаўнае скарбніцы адпушчаюцца асобныя сродкі на выдаткі дзеля здавальненьня сялянства сельска-гаспадарчымі прыладамі па найбольш танных цэнах. Водпуск гэтых сродкаў павінен быць прадгледжан у расьпісаньні дзяржаўных выдаткаў на 1923—1924 г.

5. Сялянству пры набываньні сельска-гаспадарчых прыладаў даецца на даўгі тэрмін крэдыт, на тэрмін ад аднаго году да пяцёх гадоў. З гэтаю мэтаю таварыствы сельска-гаспадарчага крэдыту робяць дысконт вексалёў, выдадзеных як на кароткі тэрмін, гэтак і на даўгі. Пераважнасьць на памянёныя прывілеі даецца сельска-гаспадарчым кооператывам і іх сябрам, сябрам таварыстваў сельска-гаспадарчага крэдыту, колектыўным гаспадаркам, а гэтак-жа і іншым аб'яднаньням сялянства. Правілы дысконту вэксалёў і велічыня

дысконтнага проценту устанаўляюцца народным камісарыятам грашовых справаў Саюзу ССР разам з народным камісарыятам земляробства саюзных рэспублікаў і сельска-гаспадарчым банкам.

**6.** З мэтаю, каб дапамагчы правідловай арганізацыі збыту сельска-гаспадарчых прыладаў, усе патрэбныя дзеля гэтае мэты сродкі збіраюцца у цэнтральным сельска-гаспадарчым банку, на які ускладваецца крэдытаваньне збыту сельска-гаспадарчых прыладаў.

**7.** Правілы, датычныя зьніжэньня цэнаў (арт. 2 гэтае пастановы) і доўгатэрміновага крэдыту (арт. 5 гэтае пастановы) ужываюцца выключна адносна тых сельска-гаспадарчых прыладаў, якія сапраўды куплены сялянствам.

*Старшыня ЦВК Саюзу ССР* **М. Калінін.**
*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар ЦВК Саюзу ССР* **А. Енукідзе.**

11 студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 10 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 12 студзеня 1924 г.

# Пастановы і загады Савету Народных Камісараў

## Саюзу Савецкіх Соцыалістычных Рэспублік.

**6. Інструкцыя аб ужытку пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 7 сьнежня 1923 г. аб устанаўленьні на 1923—1924 бюджэтны год падатку з гаспадарак, якія маюць жывёлу, а пасеваў ня маюць і знаходзяцца пры гарадох.**

На падставе арт. 9 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 7 сьнежня 1923 г. аб устанаўленьні на 1923—24 бюджэтны год падатку з гаспадарак, якія маюць жывёлу, а пасеваў ня маюць і знаходзяцца пры гарадох (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 9, арт. 272) устанаўляецца наступны парадак іх абкладаньня.

§ 1. Пад гаспадаркамі, знаходзячыміся пры гарадох, абкладваемымі падаткам у парадку пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 7 сьнежня 1923 г. трэба разумець гаспадаркі, якія знаходзяцца ў сельскіх мясцовасьцях пры гарадох, і ня маюць абкладваемай адзіным сельска-гаспадарчым падаткам зямлі, але маюць рабочую, ці продуктыўную буйную жывёлу:

§ 2. Абкладаньне падаткам з гаспадарак, якія маюць жывёлу, але ня маюць пасеваў і знаходзяцца пры гарадох, пашыраюцца на гаспадаркі, знаходзячыяся за межамі гараду на адлегласьці:

а) ад Масквы і Петраграду ня больш 30 вёрстаў,

б) ад гарадоў I і II паясоў па прамысловаму падатку ня далей 10 вёрстаў,

в) III поясу па прамысловаму падатку не далей 5 вёрстаў.

Увага 1. Залічэньне у той ці іншы пояс па прамысловаму абкладаньню робіцца на падставе раскладу мясцовасьцяў водлуг таксаў патэнтнага збору з гандлёвых і прамысловых прадпрыёмстваў і асабістых прамысловых заняткаў, зацьверджанага народным камісарыятам грашовых справаў па згодзе з камісіяй па ўнутранаму гандлю і вышэйшым саветам народнай гаспадаркі ад 2 студзеня 1924 г.

Увага 2. Саветам народных камісараў саюзных рэспублік даецца устанаўліваць вымагаемыя мясцовымі ўмовамі выняткі з правілаў арт. 4 пастановы Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 7 сьнежня 1923 г. і § 2 гэтае інструкцыі з паведамленьнем народнага камісарыяту грашовых справаў Саюзу ССР.

Увага 3. На мясцовасьці, якія ляжаць каля гарадоў не паказаных у § 2 гэтае інструкцыі, абкладаньне не пашыраецца.

§ 3. Абкладаньню падлягаюць:

а) коні і валы узростам ад 3 гадоў і старэй, а таксама вярблюды узростам ад 4 гадоў і старэй,

б) буйная рагатая жывёлы вызначаецца на 1 сьнежня 1923 г.

Увага 1. Узрост падлягаючай абкладаньню жывёлы вызначаецца на 1 сьнежня 1923 г.

Увага 2. Звальняюцца ад падатку:

а) бугаі, абслугоўваючыя грамадзянскае стада лікам ня меньш 15 кароў,

б) завадзкая жывёла, занесеная у дзяржаўныя кнігі,

в) бугаі, жэрабцы, кнуры і інш., адабраныя у устаноўленым парадку да 1 сьнежня 1923 г.

Увага 3. Звальненьне жывёлы, паказанай у увазе 2 да § 3, робіцца водлуг адпаведных пасьведчаньняў належных зямельных органаў.

§ 4. За адзінку учоту пры абкладаньні жывёлы прыймаецца адна галава буйнай рагатай жывёлы (карова), да якой прыроўніваецца адзін конь, адзін вярблюд і два валы.

§ 5. Падатак вылічаецца органамі народнага камісарыяту грашовых справаў і спаганяецца імі грашамі. Прыём грошай дзеля выплаты падатку робіцца усімі прыбыткова-выдатковымі скарніцамі народнага камісарыяту грашовых справаў.

§ 6. Велічыня абкладаньня на адну галаву буйнай рагатай жывёлы вызначаецца дадаваемым да арт. 6 пастановы цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 6 сьнежня 1924 г. раскладам ставак у чырвоных рублёх.

§ 7. Падатку не падлягаюць:

а) гаспадаркі, якія маюць ня больш аднэй каровы, пры адсутнасьці у гэтых гаспадарках рабочай жывёлы, паказанай у § 3 гэтае інструкцыі,

б) гаспадаркі навучальных установаў, як: школаў I і II ступені, вышэйшых навучальных установаў, пад-

уладных органам народных камісарыятаў асьветы, а таксама навучальна-прыкладныя формы,

в) гаспадаркі санаторыяў і бальніцаў, пад'уладных органам народных камісарыятаў аховы здароўя;

г) гаспадаркі і прадпрыёмствы, галоўным заняткам якіх зьяўляецца фурманачны заробак.

Увага 1. Гаспадаркі, паказаныя у п. п. „б“ і „в“ § 7, звальняюцца ад падатку губвыканкамамі (ці адпаведнымі ім органамі), водлуг хадайніцтваў належных аддзелаў грашовых справаў.

Увага 2. Паказаныя у п. „г“ § 7 гаспадаркі абкладваюцца прамысловым падаткам у парадку палажэньня аб дзяржаўным прамысловым падатку (Збор. Закон. РСФСР 1923 г., № 5, арт. 89).

§ 8. Гаспадаркі, паказаныя у § 1 гэтае інструкцыі, ня звальняюцца ад абкладаньня прыбыткова-памаёнтным падаткам ад 12 лістападу 1923 г.

§ 9. Сьпісы плацельшчыкаў падатку, паказаныя у §§ 1 і 2 гэтае інструкцыі, складаюцца валаснымі выканкамамі (ці адпаведаючымі ім органамі) не пазьней 15 студзеня 1924 г. па дадаваемай да гэтае інструкцыі ф. № 1.

Увага. У падставу пры складаньні сьпісаў па форме № 1 могуць быць паложаны сьпісы па вёсцы адпаведных вёсак пры гарадох, складзенныя грашовымі органамі ці органамі харчаваньня, водлуг належнасьці, дзеля спагнаньня адзінага сельскагаспадарчага падатку.

§ 10. На падставе складзеных у парадку § 9 сьпісаў па вёсцы валасныя выканаўчыя камітэты (ці адпавядаючыя ім органы) складаюць паваласное абагуленьне па дадаваемай да гэтае інструкцыі форме № 2.

§ 11. Складзеныя у парадку § 10 паваласныя абагуленьні падаюцца у павятовыя (ці адпавядаючыя ім) аддзелы грашовых справаў у устаноўленыя апошнімі тэрміны, а адтуль павятовыя абагуленьні у губэрскія (ці адпавядаючыя ім) аддзелы грашовых справаў у тэрміны, імі устанаўляемыя.

Увага. Форма папавятовага абагуленьня устанаўляецца адпаведна форме № 2 з належнымі з'і начаньнямі.

§ 12. Губэрскія (ці адпавядаючыя ім) аддзелы грашовых справаў, атрымаўшы ў парадку § 11 гэтае інструкцыі папавятовыя абагуленьні (форма № 2), складаюць адпаведна форме № 2 пагубэрскаое абагуленьне якое накіроўваюць не пазьней 25 лютага 1924 г. у народныя камісарыяты грашовых справаў адпаведнай саюзнай рэспублікі. Народныя камісарыяты грашовых справаў саюзных рэспублік падаюць абагуленьні па рэспубліках у народны камісарыят грашовых справаў Саюзу ССР не пазьней 25 сакавіка 1924 г.

§ 13. Падатак выплачваецца па курсу чырвонага рубля абвешчанаму у горадзе ў дзень плацяжа.

§ 14. Аб прыёме падатку плацельшчыкам выдаюцца квіткі агульнаўстаноўленага ўзору, у тэксту якіх павінна быць паказана: 1) найменьне вёскі і воласьці, 2) прозьвішча, імя і імя бацькі плацельшчыка, 3) колькасьць галоў жывёлы, за якіх ўносіцца падатак, 4) стаўка падатку у чырвоных рублёх, 5) агульная сума ўнесенага падатку у савецкіх знаках і чырвоных рублёх, 6) час выплаты падатку.

§ 15. Прыбыткова-выдатковыя скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў, прыняўшыя ад плацельшчыкаў грашовыя сумы, што-тыдзень перасылаюць дзеля паметкі у сьпісе па вёсцы талоны квіткі аб прыёме падатку у адпаведны валасны выканаўчы камітэт.

16. Валасныя выканаўчыя камітэты, на падставе атрыманых імі ў парадку § 15 гэтае інструкцыі талонаў квіткоў робяць паметку у сьпісах па вёсцы аб зробленых плацяжах.

§ 17. За пэрыад часу з 1 на 15 числа кожнага месяцу усе прыбыткова-выдатковыя скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў, якія робяць прыём падатку ад плацельшчыкаў, складаюць справаздачную ведамасьць (форма № 3) аб паступіўшых плацяжах і адсылаюць яе зараз жа у павятовы (ці адпавядаючы яму) аддзел грашовых справаў.

§ 18. Павятовы (ці адпавядаючы яму) аддзел грашовых справаў, атрымаўшы у парадку § 17 гэтае інструкцыі справаздачныя ведамасьці, складае (адпаведна форме № 3) папавятовую справаздачную ведамасьць накіроўвае яе 10 і 25 числа кожнага месяцу у губэрскія аддзелы грашовых справаў (ці адпавядаючыя яму)-аддзелы грашовых справаў, а апошні накіроўвае абагуленую па губэрні (ці адпавядаючай тэрыторыяльнай адзінцы) ведамасьць 15 і 1 числа кожнага месяцу у народныя камісарыяты грашовых справаў адпаведнай саюзнай рэспублікі.

§ 19. У адносінах рахунковасьці па паступіўшым плацяжам, скарбніцы народнага камісарыяту грашовых справаў кіруюцца агульнымі правіламі скарбніцаў і гэтай інструкцыяй.

§ 20. Як пройдуць устаноўленыя тэрміны выплаты падатку валасныя выканаўчыя камітэты з сьпісаў па вёсцы складаюць у 2 экземплярах сьпісы нядоімшчыкаў па кожнаму сяленьню (па форме № 4); адпраўляюць: 1-ы інспэктару грашовых справаў дзеля спагнаньня нядоімкі у прымусовым парадку, і 2-і у павятовы (ці адпавядаючы яму) аддзел грашовых справаў.

§ 21. З сумаў падатку, паступіўшых у устаноўленыя народным камісарыятам грашовых справаў тэрміны, 50% зварочваюцца у прыбытак мясцовых выканкамаў.

Увага Адлічэньне сумаў, паступіўшых да тэрміну, робіцца у чырвоным вылічэньні па курсу дня паступленьня падатку у пункт прыёму яго.

§ 22. На нязданую да устаноўленага тэрміну частку падатку налічаецца пеня велічынёю, паказанай у арт. 6 палажэньня аб спагнаньні падаткаў і збораў („Изв.“ ЦВК Саюзу ССР і УЦВК“. ад 22 сьнежня 1923 г.), якая спаганяецца адначасна з нядоімкай.

§ 23. Скаргі на неправідловы учот аб'ектаў абкладаньня і вылічэньне акладу падатку падаюцца у павятовую (ці адпавядаючую ,ёй) падатковую па адзінаму сельска-гаспадарчаму падатку камісію у двухтыднёвы тэрмін з дня абвесткі плацельшчыку сумы падатку.

Увага. Абжальбаваньне ня прытрымоўвае ўзносу падатку.

§ 24. Тэрміны выплаты падатку па асобным павятовым ці адпавядаючым ім тэрыторыяльным адзінкамі устанаўляюцца губэрскімі выканаўчымі камітэтамі (ці адпавядаючымі ім органамі) і публікуюцца абавязковымі пастановамі дзеля шырокага азнаямленьня з імплацельшчыкаў.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

4 студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

ДАДАТКІ.
Узор № 1.

## Сьпіс па вёсцы плацельшчыкаў падатку з прыгародных жывёлаводных без засеву гаспадарак за 1923—24 год.

Вёска ______ воласьць ______
павет ______ губэрня ______
Пояс па прамысловаму абкладаньню „______“ Падатак выплачваецца да „______“ мес. „______“ ______г.

| Чарговы №№ | Прозьвішча, імя і імя бацькі плацельшчыка. | Лік жывёлаў (галоў) у гаспадарства. | | | | | Стаўка падатку з галавы у чырвоных рублёх. | Усяго належыць здаваць падатку у чырвон. рублёх. | Расьпіска плацельшчыка аб тым, што яму абвясьцілі суму падатку. | Адметка аб выплатах. | Адметка аб поўнай выплаце падатку. | Увага. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Кароў. | Коняў. | Валоў. | Вярблюдаў. | Усяго пералічш. на буйную рагат. жывёлу. | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | | |
| | Усяго з вёскі . . . | | | | | | | | | | | |

*Старшыня волвыканкаму (подпіс).*

Узор № 2

## Абагуленьне па воласьці.

Водзуг падаткаў з прыгародных жывёлаводных без засеву гаспадарак за 1923—24 г.

______ воласьць ______ павет
______ губэрня.

| Чарговы №№ | Назва вёскі. | Лік гаспадарак. | Лік жывёлаў (галоў). | | | | Усяго пералічаных на буйную рагатую жывёлу. | Велічыня падатку у чырв. рублёх. | Увага. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Кароў. | Коняў. | Валоў. | Вярблюд. | | | |
| | | | | | | | | | |
| | Усяго з воласьці . | | | | | | | | |

*Старшыня волвыканкаму (подпіс).*

Узор № 3.

## Ведамасьць

сумаў, паданых у ______ прыбыткова-выдатковую скарбніцу ______
дзеля выплаты падаткаў з прыгародных жывёлаводных без засеву гаспадарак за час
ад „______“ да „______“ 192 г.

| Чарговы №№ | №№ квітоў. | Назва вёсак | Падана за перыяд справаздачы дзеля выплаты падаткаў. | | Падана за перыяд справаздачы дзеля выплаты пэні (штрафаў). | | Увага. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Савецк. грашыма. | У пералічэньні на чырвон. рублі. | Савецкімі грашыма. | У пералічэньні на чырв. рублі. | |
| | | | | | | | |
| | | Усяго за перыяд справаздачы | | | | | |

*Загадчык прыбыткова—выдатковае скарбніцы КНГС (подпіс).*

Узор № 4.

________________ пав. аддз. граш. спр. Водпіс інспэктару граш. спр.

Нядоімшчык ________________ вёскі ________________ воласьці ________________

________________ павету ________________ губэрні ________________

на „ — “ лік ________________ месяцу „ ______ “ году.

| Чарговы №. | НЯДОІМШЧЫКІ: Прозьвішча і № у сьпісу па вёсцы. | Лічыцца нядоімак у чырвоных рублёх. | Увага. |
| --- | --- | --- | --- |
| | | | |
| | Усяго. . . . . . . . . . | | |

*Старшыня волвыканкому (подпіс).*

**7. Аб пашырэньні пастановы Савету Народных Камісараў ад 26 чэрвеня аб парадку спагнаньня сельскагаспадарчага падатку у Бурат-Мангольскай аўтаномнай краіне і адлічэньня ад паступленьняў яго у агульна саюзны фонд.**

На падставе пастановаў УЦВК ад 31 траўня і 13 чэрвеня 1923 г. аб аб'яднаньні Буратскіх аўтаномных краінаў у Бурат-Мангольскую аўтаномную соцыялістычную савецкую рэспубліку,—Савет Народных Камісараў Саюза ССР **пастанаўляе:**

Пашырыць дзейнасьць пастановы Савету Народных Камісараў ад 26 чэрвеня аб парадку спагнаньня сельска-гаспадарчага падатку (Зз. Зак. РСФСР 1923 г., № 62, арт. 593) на ўвесь абшар Бурат-Мангольскае аўтаномнае соцыялістычнае савецкае рэспублікі.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

8 студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

---

**8. Аб падатковых льготах асобам каманднага складу, якія знаходзяцца ў запасе—рабоча сялянскай чырвонай арміі, якія прыцягваюцца ў якасьці інструктароў па ваеннай падрыхтоўцы працоўных.**

Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

1. Асобы каманднага складу, якія знаходзяцца у запасе рабоча-сялянскай чырвонай арміі, якія прыцягваюцца на падставе пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік ад 10 ліпеня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 14, арт. 00) у якасьці інструктароў да ваеннай падрыхтоўкі працоўных, прыраўніваюцца, у адносінах выплаты дзяржаўных і мясцовых падаткаў і збораў, да асобаў страявога каманднага складу чырвонай арміі.

2. Дзеля атрыманьня паказаных у папярэднім артыкуле льготаў, патрабуецца падача органам спагнаньня падаткаў і збораў пасьведчаньняў ваенных камісарыятаў ці падлягаючага страявога начальства аб фактычным выкананьні абавязкаў інструктароў па ваеннай падрыхтоўцы працоўных.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фоціева.**

17 студзеня 1923 г. Масква—Крэмль.
Агалошана у № 37 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 14 лютага 1924 г.

---

**9. Аб з'іначаньні інструкцыі па вытворчасьці мытнымі установамі прадажы з таргоў тавараў і рэчаў, якія прызнаны контрабанднымі і канфіскаванымі.**

Дзеля з'іначаньня інструкцыі 8 верасьня 1922 г. па вытворчасьці прадажы з таргоў тавараў і рэчаў, якія прызнаны кантрабанднымі і конфіскаваных (Зб. Зак. РСФСР 1922 г., № 62, арт. 787), і дзеля адмены пастановы Савету Народных Камісараў Расійскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі а 3 ліпеня 1923 г. аб з'іначаньні арт. 7 памянёнай інструкцыі (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 66, арт. 642), Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік **пастанаўляе:**

1. Арт. 7 памянёнае інструкцыі выкласьці у наступнай рэдакцыі:

„Торг пачынаецца з ацэначнае сумы тавараў і рэчаў вызначанай у парадку увагі 1 да арт. 4 дэкрэту Савету Народных Камісараў Расійскай Соцыялістычнай Фэдэратыўнай Савецкай Рэспублікі аб мытнай ахове. (Зб. Зак. РСФСР 1922 г. № 58, арт. 734).

Пры прадажы тавараў і рэчаў, абкладзенных мытаю і, у падлягаючых выпадках, акцызам, ацэначная сума тавараў і рэчаў павінна быць ня ніжэй сумы, належачых з іх мыты і акцызу“.

**2.** Арт. 16 тэй жа інструкцыі выкласьці у наступнай рэдакцыі:

„У выпадку неадбыўшыхся таргоў назначаюцца, не пазьней двухтыднёвага тэрміну, з захаваньнем арт. арт. 3 і 4 гэтае інструкцыі другія таргі, прычым, калі тавары і рэчы ня былі праданы на першых таргах, з прычыны паказанай у арт. 7 інструкцыі ацэнкі, яна зьніжаецца мытніцаю“.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкрэтар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

17 студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 37 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 14 лютага 1924 г.

---

## 10. Аб ўвядзеньні лічэньня часу водлуг паміжнароднага укладу гадзінных паясоў.

У мэтах хутчэйшага устанаўленьня аднастайнага з іншымі старанамі лічэньня часу у працягу сутак, абумоўліваючага на ўсей зямной кулі адны і тыя ж паказаньні гадзінаў, мінутаў і сякундаў, Савет Народных Камісараў Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік, у дадатак да дэкрэту СНК РСФСР 1919 г., № 6, арт. 59 і да пастановы Савету Народных Камісараў Расійскай Социялістычнай Фэдэрацыйнай Савецкай Рэспублікі ад 24 чэрвеня 1919 г. (Зб. Зак. РСФСР 1919 г., № 28, арт. 314), **пастанаўляе:**

**1.** Прызнаць неабходным ажыцьцяўленьне дэкрэту ад лютага 1919 г. (Зб. Зак. РСФСР 1919 г., № 6, арт. 59) на усім абшары Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

**2.** Дзеля памянёнае у арт 1 мэты, у 2 гадзіны ночы 1 траўня 1924 году водлуг уведзенага на чыгунках часу другога поясу, усе гадзіньнікі, знаходзячыяся ў даступных дзеля публікі вакзальных і пачтова-тэлеграфных памешканьнях, паставіць гэтак, каб яны паказывалі цэлы лік гадзінаў, роўны нумару поясу. Час у працягу сутак лічыць 30 да 24 гадзінаў, прыймаючы за пачатак сутак поўнач.

**3.** А поўначы з 14 на 15 траўня 1924 г. па гадзіньніках, пераведзеных згодна арт. 2, паставіць гадзіньнікі ўсюды у Саюзе Савецкіх Социялістычных Рэспублік па часу гэтага поясу.

**4.** Даручыць народнаму камісарыяту почт і тэлеграфаў, разам з народным камісарыятам шляхаў зносін, выданьне, адпаведна арт. 5 дэкрэту Савету Народных Камісараў Расійскай Социялістычнай Фэдэрацыйнай Савецкай Рэспублікі ад 8 лютага 1919 году (Зб. Зак. РСФСР 1919 г., № 6, арт. 59), інструкцыі па ужытку гэтае пастановы.

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справамі СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

17 студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 37 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 14 лютага 1924 г.

---

## 11. Аб працягненьні дзейнасьці пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 24 ліпеня 1923 г. аб забароне утварэньня лотэрэяў.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Працягнуць на далей аж да асобай пастановы Савету Народных Камісараў Саюзу ССР ад 24 ліпеня 1923 г. аб забароне утварэньня лотэрэяў: (Весьнік ЦВК, СНК і СПА 1923 г., № 1, арт. 39).

*Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР* **Л. Каменеў.**
*Кіраунік Справау СНК Саюзу ССР* **Н. Гарбуноў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

17 студзеня 1924 г. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 37 „Известий“ ЦВК Саюзу ССР ад 14 лютага 1924 г.

---

# Пастановы і загады Савету Працы і Абароны
## Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік.

### Аб нормах натуральнай страты прадуктаў пры хаваньні на складах на 1923—24 опэрацыйны год.

...вет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

... Зацьвердзіць на 1923—1924 опэрацыйны год ні...аступныя нормы натуральнай страты прадуктаў ...хаваньні на складах.

| Найменьне прадуктаў | Нормы страты прадуктаў пры хаваньні на складах да 9 месяцаў. | |
|---|---|---|
| | Запакован. | Рассып. |
| ... пшаніца . . . . . . . . . | 0,15% | 0, 3% |
| ... ячмень, полба і грэчка . . . | 0,25% | 0, 4% |
| ...о бабовае (гарох, фасоль і інш.) . | 0, 3% | 0, 5% |
| ...йнае насеньне (льняное, каноплі, слапэчнікавае і інш.) . . . . . . | 0, 5% | 0,75% |
| Проса . . . . . . . . . . . . . | 0, 5% | 0,75% |
| Кукуруза . . . . . . . . . . . | 1, 0% | 1, 5% |
| Мука розная, апрача бульбяной . . . | 0, 2% | — |
| Крупы . . . . . . . . . . . . . | 0, 2% | — |

Увага 1. Гэтымі нормамі страты прадгледжваецца вільготнасьць да 15% дзеля зярна і да 11% дзеля алейнага насеньня.

Увага 2. На упакоўку пры прыёме на вагоннай вазе і пры пераважаньні на вазе складу устанаўліваецца страта на звыш 0,1% зярна рассыпнога і 0,5% зярна упакаванага.

**2.** Ужываньне гэтых нормаў да пералічаных вышэй прадуктаў абавязкова з дня агалошаньня.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

4 студзеня 1924 р. Масква—Крэмль.

---

**13.** **Аб парадку ліквідаваньня чыннасьці мясцовых і цэнтральных зьмешаных камісіяў дзеля развязваньня спрэчак аб узвароце спажывецкай коопэрацыі знацыаналізаваных і муніцыпалізаваных прадпрыёмстваў і промыслаў.**

Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

1. З 20 студзеня 1924 г. мясцовыя зьмешаныя камісіі спыняюць прыём заяваў ад спажывецкіх коопэрацыйных організацыяў аб ўзвароце ім прадпрыёмстваў і промыслаў.

2. Усе справы, паступіўшыя да 20 студзеня 1924 г. і знаходзячыяся да часу агалошаньня гэтае пастановы у вытворчасьці мясцовых зьмешаных камісіяў і тэхнічных камісіяў, прадгледжаных увагаю да арт. 6 інструкцыі 17 траўня 1922 г. „Аб парадку узвароту спажывецкай коопэрацыі прадпрыёмстваў і промыслаў", павінны быць вырашаны імі у працягу двухтыднёвага тэрміну.

3. Скаргі па справах, вырашаных у парадку арт. 2 гэтае пастановы, падаюцца з абодвух бакоў у працягу тыднёвага тэрміну з дня вырашэньня у мясцовую зьмешаную камісію, якая накіроўвае іх у цэнтральную зьмешаную камісію з ўсей справай не пазьней трох дзён з дня атрыманьня скаргі.

4. Мясцовыя зьмешаныя камісіі, пасьля канца сваей працы, падаюць справаздачу аб ёй у эканамічныя нарады, пры якіх яны знаходзяцца, а дзе яны скасаваны у прэзыдыумы падлягаючых выканаўчых камітэтаў. Справы, не адпраўленыя за адсутнасьцю скаргаў у цэнтральную зьмешаную камісію, здаюцца на зьбераганьне ў эканамічныя нарады або прэзыдыум выканаўчага камітэту.

5. Цэнтральная зьмешаная камісія спыняе сваю чыннасьць пасьля вырашэньня ёй усіх справаў, знаходзячыхся у яе вытворчасьці да часу агалошаньня гэтае пастановы, і скаргаў, якія паступяць да яе у парадку арт. 3 гэтае пастановы.

6. Пасьля канца сваей працы цэнтральная зьмешаная камісія падае справаздачу аб ёй у Савет Працы і Абароны, а справы здае на зьбераганьне у сэкратарыят Савету Працы і Абароны.

7. Усе прэтэнзіі арганізацыяў спажывецкай коопэрацыі аб узвароце ім прадпрыёмстваў і промыслаў не заяўленыя да 20 студзеня 1924 г. у мясцовыя зьмешаныя камісіі, вырашаюцца арбітражнымі камісіямі пры Савеце Працы і Абароны, пры эканамічных нарадах саюзных рэспублік і мясцовымі, водлуг належнасьці.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар СПА Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

11 студзеня 1924 р. Масква—Крэмль.

Агалошана у № 15 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 18 студзеня 1924 г.

---

**14.** **Аб дазволу вывазу абкладваемых акцызам нафтапрадуктаў са зьняцьцем акцызу і безакцызным адлічэньнем праз Алкабенскі пост у Манголію.**

На падставе пастановы Усерасійскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў ад 11 студзеня 1923 г. аб мерах дапамогі экспарту (Зб. Зак. РСФСР 1923 г., № 3, арт. 60), Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Дазволіць вываз у Манголію праз Алкабенскі пост абкладваемых акцызам нафтапрадуктаў са зьняцьцем акцызу і безакцызным адлічэньнем прадгледжаных арт. 4 пастановы УЦВК і СНК ад 11 студзеня 1923 г.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў.**
*Сэкратар СНК Саюзу ССР* **Л. Фаціева.**

11 студзеня 1924 г. Масква — Крэмль.

Агалошана у № 16 „Известий" ЦВК Саюзу ССР ад 19 студзеня 1924 г.

---

**15.** **Аб зацьверджаньні прадстаўнікоў народнага камісарыяту унутраных справаў і народнага камісарыяту земляробства Украінскай Социялістычнай Савецкай Рэспублікі у склад цэнтральнае ацэначнае камісіі па учоту выпрацоўцы ставак зямельнай рэнты пры Савеце Працы і Абароны Саюзу ССР.**

У дадатак да пастановы Савету Працы і Абароны ад 14 сьнежня 1923 г. (Весьнік ЦВК, СНК і СПА № 11, арт. 319) аб утварэньні цэнтральнае ацэначнае камісіі па учоту і выпрацоўцы ставак зямельнай рэнты пры Савеце Працы і Абароны, Савет Працы і Абароны Саюзу ССР **пастанаўляе:**

Зацьвердзіць у якасьці сяброў цэнтральнае ацэначнае камісіі:

1. т. **Горава** – ад народнага камісарыяту унутраных справаў Украінскай Социялістычнай Савецкай Рэспублікі.

2. т. Тэрлецкага—ад народнага камісарыяту земляробства Украінскай Социялістычнай Савецкай Рэспублікі.

*Нам. Старшыні СПА Саюзу ССР* **А. Рыкаў**
*Сэкратар СПА Союзу ССР* **Л. Фаціева**

11 студзеня 1924 р. Масква—Крэмль.

---



Главлит № 19.050. Тираж 1.000 экз.

Типография „Красный Пролетарий", Изд-ва „Красная Новь", Пименовская, 1/16.